# Беларуская Думка

Выходзіць тройчы у тыдзень.

Цана нумэру 50 кап.

АБВЕСТКІ: 1 радок перад тэкстам 4 рублі. 1 радок за тэкстам 2 рублі. 3 безработных за ўсю абвестку 2 рублі.

Рэдакцыя і Адміністрацыя-- Вострa-Брамская, № 9— адчынена што дня, апрача сьвята, 8—12 і 3—5.

Год I. Суббота, пятніца 31 мая 1919 г. № 15.


## Аб коопэрацыі.

Сярод агульнага сучаснага разбурэньня бадай адна кооперацыя захавала сваю цану і навет здабыла пасьпех.

Мірны час меў вялізарны запас усякага дабра і безперэстанку пільнаваў, каб яго павялічыць.

Дзеля таго кооперацiя да вайны мела на увазе, глаўнейшым чынам, *распамеркаваньне* дабра.

Цяпер дзяліць блізка што няма чаго.

І пытаньні аб *здабываньню* дабра, якія раней кооперацыя уважала зэ другаступенныя і належачыя да няблізкай будучыні, цяпер зрабіліся ля яе чым-сьці ня толькі патрэбным, але навет ніяк немінулым у наш час.

Цяпер прынцып кооперацыі — здавальненьне патрэб агульнымі сіламі— выглядае ужо як *здабываньне* дабра з дадатковай проблемай: са спорнасьцю скарыстаць незанятыя рукі, выкарастаць гулявую рабочую энэргію.

Перад вачмі паўстае шырокая відаль. Арцелі, таварыствы, майстэрні, фабрыкі, цэлыя месты—усё гэта можа быць абхоплена кооперацыяй, створана па яе плянах, ёю падбодрана. Замест руін, бяздзельніцтва і бруду — новыя формы, актыўнасьць, прыгажство.

Заданьні вялікія і уражачныя здаюцца бязьмежнымі, але способы спраўдзіць іх абмяжованы.

Азначылася моцнае паддаваньне кооперацыі уплывам бягучым і перахадзячым. Кооперацыя рабілася *дадаткам*, способам дзеля каго ці для чаго. Гэтак здаралася у нас і заграніцаю. Dr. Ford, агледаючы разьвіцьце амерыканскай коопэрацыі, кажа: „Першаю элементарнаю умоваю посьпеху кооперацыі ёсьць яе *незалежнасць*. Кооператыўныя пляны вымагаюць, каб іх не вязалі з прадпрыемствамі, у якія ня ймецца веры і банкруцтва якіх можа сьцягнуць і кооперацыю. Амерыканская гісторыя усыпана прыкладамі гэткага ладу, калі пляны кооперацыі, практычныя самі па сабе, даставалі долю няжыцьцёвых, утопічных спробаў перарабіць грамаду, бо комунізм, вегетарыянства, піэтызм, фемінізм і іншыя—усе прылучалі кооперацыю да сваіх програм“.

У кооперацыі ж болей чым даволі *сваіх* мэтаў, *свайго* клопату, *сваіх* кіраваньняў да мэты, яна павінна сабою жыць, сабою пасоўвацца, сабою кіравацца.

**В. Останковіч.**

## Беларускае войска.

**27-га мая** у Генеральнага Комісара пана Осмолоўскага былі прадстаўнікі Беларускай Вайсковай Організацыі пры Віленскім Беларускім Нацыянальным Комітэці: командзір Беларускага Гусарскага палка генеральнага штаба палкоўнік Родштэйн-Гулевіч-Бароўскі, яшчэ адзін палкоўнік генеральнага штаба і адзін капітан. Апроч таго з дэлегацыяй быў разам вядомы беларускі артыста гр. Ждановіч. Пан Генеральны Комісар прыняў дэлегацыю вельмі прыхільна і уважна выслухаў жаданьне беларусаў ваякоў прыняць безпасьрэдняе вучасьце у баявых аперацыях дзеля абароны роднага краю. Пан Осмолоўскі пацікавіўся, ці ёсьць ужо якія беларускія вайсковыя формаваньні. Калі ён даведаўся, што у Горадні ёсьць беларускі полк, то прасіў палкоўніка Родштэйна зьездзіць у Горадню для інспэкцыі палка і потым даклада аб рэзультаце. Апроч таго, пан Осмолоўскі даў указаньні, з кім іменна трэба тут у Вільні весьці перагаворы у справе формаваньня беларускага войска. Пан Генеральны Комісар адзначыў, што з яго боку ёсьць на гэта поўнае спагаданьне, калі толькі беларусы будуць абараняць свой край побач і ў добрых стасунках з польскім народам. На гэта палкоўнік Родштэйн адказаў, што яны, як ваякі, ніякага паўнамоцтва не маюць зачапляць абы-якіх палітычных пытаньняў, але усе ваякі-беларусы гараць жаданьнем палажыць сваё жыцьцё і шчырым сэрцам бажаюць бараніць свой родны край і свой родны народ, дзеля чаго і просяць дапусьціць іх заняць частку баявога фронта і просяць даць ім дапамогу матэр'яльную і збройную. Палкоўнік Родштэйн затым дадаў, што ён працуе ужо доўгі час, каб стварыць беларускую нацыянальную армію, для чаго ён залажыў беларускую цэнтральную вайсковую організацыю на тэрыторыі Украіны у Кіеве і быў вайсковым прадстаўнікам беларусаў пры украінскім вайсковым міністру генералу А. Ф. Рагоза, а пры абароне Кіева ад бальшавікоў камандаваў офіцэрскім конным атрадам, каторы складаўся глаўным чынам з маладых офіцэраў-беларусаў. Праканаўшыся на практыцы, што з адных офіцэраў, якія б добрыя яны не былі, ня можна стварыць ніякой арміі, палкоўнік Родштэйн пераехаў ў Адэсу, каб арганізаваць армію з беларусаў-бежанцаў, пражываючых на Украіне, у Крыму і на Каўказе. У Адэсі пры Беларускім Нацыянальным Цэнтру была заложана Беларуская Вайсковая Комісія, каторая распачала фарміраваньне 1-й Беларускай дывізыі. Гэта дывізія дастала кошты ад Украінскага ураду. Калі ў Адэсі пачала формавацца Паўдзённая расійская дабрэвольная армія, на беларускую дывізію, як фарміраваньне чыста нацыянальнае, пачалі глядзець непрыхільна і рабіць ёй перашкоды. Пры формаваньні гэтай дывізыі працаваў генеральнага штаба палкоўнік Вэндт (начальнік Беларускага генеральнага штабу пры ген. Кондратовічу). Калі здарылася катастрофа з Адэсаю, па апошнім весткам палкоўнік Вэндт быў забіт тамтэйшымі бальшавікамі у готэлю „Цэнтраль“, дзе быў штаб па фарміраваньню Беларускай дывізыі. Офіцэры і солдаты, што асталіся ад гэтай дывізыі, прыкамандзіраваліся да 4-й польскай дывізыі, што ухадзіла у склад Франко-грэцкага акупацыйнага корпуса, і разам з палякамі адступілі у Бесарабію, каторую цяпер валадаюць румыны. Цяпер гэтыя астаткі румыны засадзілі у Тульчу, у лагер, лічучы іх усіх за бальшавікоў і саўсім не адрожніваючы іх ад велікарусаў. Трэба адзначыць, што калі гэтым беларусам ваякам пагражала сьмерць з аднаго боку ад бальшавікоў, а з другога боку ад румынаў, ім значна памаглі польскія войскі, і хто не застраліўся там, дык толькі дзякуючы палякам. Палкоўнік Родштэйн кажа, што ня можна не падкрэсьліць гэтых добрых адносін палякоў да нас і спадзяецца, што беларусы з палякамі могуць ваяваць побач на адным фронце проці агульнага ворага.

Аб далейшым фарміраваньню белалускага нацыянальнага войска будзе давацца беларускай грамадзе самае шырокае азнаямленьне.

## Незалежнасьць Ірландыі.

Англія апавесьціла усяму сьвету, што дае незалежнасьць Ірландыі.

Факт гэты мае аграмаднае значэньне: ён даказывае, што ідэя вольнасьці для малых народаў не прапала і уводзіцца у жыцьцё.

Ірландзкі народ, каторы колькі сталецьцяў цярпеў нечуваны уціск, народ, каторы жыў, як і мы беларусы, „на нашай, але не сваёй зямлі“—атрымаў свабоду.

Беларусы нейкі час мелі зносіны з Інландыяй: гэта было яшчэ за Керэнскага да пабеды бальшавізма. Колькі ірландцаў было у Менску і дужа цікавіліся беларусамі і іх ідэяй незалежнасьці.

Доўга можа быць прыйдзецца чакаць нам на гэтае счасьця, але мусім яго дачакацца і дачэкаемся, як ірландцы.

Fiat justitia!

**Саўка Барывой.**

масьць, машыны, прадукты; у Менску усе галодныя, у дварах няма чым засеяць палёў, будзе голад. Віленскія беларусы павінны пратэставаць, каб усё што на лежыць беларускаму народу не адбіралася ад яго.

Грам. Яцкевіч зварачывае увагу на патрэбнасць беларускіх школ у вёсках. Там, дзе большасьць жыхароў каталікі, каб беларуская школа ляпей прывілася, трэба дзяцей навучаць і польскай мовы. Патрэбна арганізаваць беларускія народныя тэатры.

Старш. сходу гр. Алексюк інформуе, што ў Вільні ёсьць Беларуская музыкальна-драматычная сэкцыя, але цяпер трэба канешне больш і лепш сарганізавацца.

Грам. Вороновіч падымае пытаньне аб звальненьні арыштаваных беларусаў. Арыштаваны ужэ даўно пачтовы чыноўнік беларус грам. Карабач, не гледзючы на усе дамаганьні, польскай уладай не выпускаецца і сядзіць невядома дзе.

Грам. Станкевіч кажа, што грам. Карабач сядзіць у Лукішскай турме.

Старш. сходу грам. Алексюк інфармуе, што Беларуская Рада адразу зьвярнулася з просьбай аб звальненьні арыштаваных беларусаў да п. Осмолоўскаго і была ім прынята прыхільна.

Грам. Станкевіч кажа, што мала казаць аб беларускіх дзеячох, але трэба казаць аб усіх несправядліва арыштаваных беларусах. Для падмогі арганізаваць юрыдычны аддзел. Прапануе вынесьці рэзалюцыю пратэста проціў арыштаў, каторую і фармуліруе гэтак:

Сабраньне беларусаў места Вільні пратэстуе проціў ні на чым не апіраючыхся арыштаў і дамагаецца, каб па прэдстаўленьню Рады арыштаваныя былі выпушчаны.

Рэзалюцыя пратэсту прыймаецца усім сходам.

Грам. Станкевіч пратэстуе проціў звальненьня працаўнікоў за тое, што яны ня ведаюць польскае мовы. Сход падцьвярджае, што сярод прысутных ёсьць шмат выкінутых са службы людзей.

Грам. Ерэміч пакаывае на цяжкія варункі у якіх прыходзілася працаваць беларусам пры рускіх і пры немцах і пры бальшавіках. З прыходу палякоў так сама німа чаго цешыцца. З тэлефоннай станцыі звольнены усе працаўнікі. Як перш прысылалі з Масквы, дык цяпер прысылаюць з Варшавы. Беларусы маюць права тут жыць і працаваць.

Старшыня сходу грам. Алексюк звертае увагу на адозву Глаўнакамандуючага пана Язэпа Пілсудскаго і з пратэстам прапануе зьвярнуцца да Пілсудскаго.

Адзін з прысутных прапануе прасіць палякоў адкрыць курсы для чыноўнікаў, каб яны маглі навучыцца польскай мовы.

Грам. Станкевіч формуліруе рэзалюцію пратэста: Беларускі Сход, разгледзеўшы смутны факт, што сотні беларусаў выкінуты са службы, за тое што ня прызналі сябе палякамі, дамагаецца каб прынялі йзноў на службу звольненых беларусаў і каб больш не было выпадкаў гэтакіх звальненьняў.

Рэзалюцыя прыймаецца усім сходам.

Далей гр. Станкевіч патрабуе сплочанасьці прафэсыянальных саюзаў, прапануе шырыць беларускую сьвядомасьць сярод чыгуншчыкаў, складальнікаў і г. д. Трэба разьбіцца на партыі розных кірункаў; трэба падтрымліваць газэту „Беларуская Думка“, каторая павінна выхадзіць і лацінскімі літарамі. Усім прысутным, каб іх асьвядоміць будзе раздавацца брашура праф. Доўнар - Запольскага «Асновы Дзяржаўнасьці Беларусі».

Сход выказывае жаданьне каб беларуская газэта выходзіла штодзенна.

Грам. Тарашкевіч кажа, што яму зусім зразумела тое, што у ваенныя часы палякі хочуць мець у сваіх руках тэлефон. Але сорам тым, хто кажа, што трэба вучыцца польскай мовы. Усе павінны навучыцца беларускай мовы.

Старшыня сходу грам. Алексюк прапануе галасаваць рэзалюцыі.

Першая рэзалюцыя гэткая:

Віленскія беларусы, сабраўшыся на агульны сход 25 траўня (мая), выказываюць сваю цьвёрдую пастанову бараніць незалежнасьць і непадзельнасьць Беларускае Народнае Рэспублікі у яе этнаграфічных і гістарычных граніцах.

Рэзалюцыя прыймаецца усім сходам.

Другая рэзалюцыя гэткая:

Дзеля падтрыманьня і абароны незалежнасьці і непадзельнасьці Беларусі, сход беларусаў места Вільні высказываецца за патрэбнасьць найхутчэйшага стварэньня беларускага войска. Гэтае войска павінна будзе бараніць бацькаўшчыну ад усіх ворагаў яе незалежнасьці і непадзельнасьці а такжа будзе ў першым чараду вясьці барацьбу проціў бальшавікоў супольна з усім культурным сьветам.

Рэзалюцыя гэта прыймаецца усім сходам.

(*Далей будзе*).

# СЬВІТАЕ.

Эй, годзі ўжо спаць! Уставайце!
Глядзіце — сьвітаць пачало.
Скарэй-жэ, скарэй пасьпешайце:
Нясе сонцэ сьвет і цяпло.

Яно сэрцы нам разгрэе,
Адчыняцца вочы на сьвет,
Яно сон наш хутка развее,
Вясёлы шлючы нам прывет.

Ужо годзі, усю ночку праспалі,
Ужо годзі у цемры былі;
Глядзіце ноч скрылась у далі,
Сьвет сонца царыць на зямлі.

*Янка Купала.*

* *
*

Хачу жыці, хачу жыці,
Хачу птушкай вольнай быці,
Абляцеці родны край,
Хачу песьні аб прадвесьні
Прапеяці адначасьне
Пра сьвятлейшы дзіўны рай.

Сэрцэ бьецца, думка мкнецца
І зімы ланцуг праврецца,
Зашуміць як-бы рэка,
Закрасуе, зарунуе,
У кветкі поле пашнуруе
Беларуса бедака.

Ускалыхнецца, схамянецца
Душа устаўшая прачнецца,
Выйдзе ў поле паглядзець.
Усьмяхнецца вабна дзіўна,
Яго думка пераліўна
І пачне красой гарэць.

Красой, яснай жаданай, шчаснай,
Не фальшывай, сваей уласнай,
Загаварыць пачуцьцё.
Усё што сонцэ праз ваконцэ
Асьвеціло ў тваей староньцэ
Тваё згнанае жыцьцё.

Зразумееш і адчуеш,
Сваё роднае ўшануеш,
Загаварыш вольна ім
Роўна кветцы ў твэй палетцы
Закрасуе шчасьцем ў летцы—
Роўны станеш людзям усім.

**Піліпоў.**

Вільня 10. І. 1912.

# АПОШНІЯ НАВІНЫ.

— Наўпрэкі апошнім весткам, Рыга і Дзьвінск і дагэтуль знаходзяцца у руках бальшавікоў.

— Літоўскае войска узяло Паневеж.

— Польскае войска б'ецца з бальшавікамі каля Пінску.

— „Deut. Allg. Ztg.“ падаець вестку з Стакгольму быццам белыя з дапамогаю англічанаў здабылі Пэтэргоф.

— Антанта маніцца прызнаць урад Колчака, калі ён не адновіць у Расеі царызму і прызнае незалежнасьць Польшчы, Літвы і Эстоніі.

— Украінцы кіруюцца да шчыльнага палітычнага хаўрусу з чэхамі. Перагаворы ідуць у Празе.

— Румынія не згаджаецца адступіць Сэрбіі палову Баната, а Баўгары вялікшую частку Дабруджы. Спадзяюцца важных падзей.

— З 19 га мая у Польшчу з Францыі прывезена 45.000 жаўнераў арміі Галлера.

— Наўпрэкі чуткам, Петлюра не перадаўся на бок бальшавікоў. Байка таксама, што бальшавікі яго злавілі.

— У Празе былі вялікія дэмонстрацыі бальшавіцкага характару. Неспакой быў перадаўся у правіньцыю. Войска зрабіла парадак у ва ўсёй Чэхіі.

## Памяці без пары згасшых дзеячоў беларускіх.

Сэрца баліць і кроіцца, што зломленныя непамернай працаю гэткія маладыя і багатыя сілы, як Максім Багдановіч, Александр Грыкоўскі і Тэкля Станішэўская, без пары згаслі.

Усяму на сьвеце павінна быць мера. І ці ня лепей бы было, каб згіблыя працаўнікі штодзень на некалькі толькі гадзінак меней працавалі, трошачку толькі болей спалі і ў часе працы ня зусім забываліся на патрэбы сваіго арганізму?

Ня дбаючы-ж аб гэтым, яны скрыў-

дзілі беларускі народ, бо ніякія гарачыя сьлёзы іх ужо ня ўзбудзяць...

Але ніхай жа, прынамсі, цяпер, апась-ля тых балесных стратаў, кіраўнікі нашы навучаюць маладых сваіх працаўнікоў шкадаваць здароўе, патрэбнае дзеля усей грамады.

М. Багдановіч, А. Грыкоўскі і Т. Станішэўская не берaглі яго як мае быць, вось і дасталі сухоты—на згубу сабе, на смутак нам і на вялікую шкоду справе беларускай, папрацаваўшы ня 20—30—40, а 4—5—6 гадоў.

Шкада мне іх, любых, дарагіх! І горкія сьлёзы я лью, пішучы гэтыя радкі...

Ня грэбуйце-ж, людцы, маёю засьцярогаю, бо добра ведаю, што праца пераз сілу шмат згубіла людзей без пары, у таей лічбе і майго мужа; яна ж была прычынаю цяжкага артрыта, каторы адабраў у мяне ногі, яна і нядбаньне аб сваім здароўю.

**А. Р.**

## З газэт.

### Апэтыты на Беларусь.

Варшаўская расейская газэта с поваду прызнаньня праз Антанту новага расейскага ураду адмірала Колчака пачынае біць у звон:

„Царства Польскага Расея адракласа урочыста яшчэ у 1917 гаду, але усяго таго што ляжыць за граніцамі кангрэсовага Царства Польскага Расея не адраклася. У непрысутнасьці Расеі справа яе адносін да яе заходніх акраін(!) ні можа быць навет пастаўленай. Тымчасам нейкія польскія палітыкі, заражэныя рамантызмам, хочуць з Польшчы зрабіць буфэр, які аддзеляў бы Эўропу ад Расеі і аднача́сна стварыць для сябе буфэр з Украіны, Беларусі, Літвы ды Латвіі, хочуць, каб Польшча засела за тым валам і не уваходзячы сама у стычнасьць з Расеяй, не давала ёй можнасьці знасіцца з Эўропай. Гэта сярэднявяковыя лятуценьня у хмарах, каторыя забываюць, што у стэпах Усходняе Эўропы няма ордаў Батыя і Чынгісхана, а дымяшча трубы хфабрык, такія самыя, як у культурнай Варшаве, і дзеля таго уселякія буфэры звычайныя і двайныя ёсьць лішнімі“.

Апэтыты на нашую няшчасную Беларусь ярка прабіваюцца у гэтай газэці. Як „Свободное Слово“ прыпамінае братні па духу польскі орган „Dziennik Wileński“, проста дзіву можна дацца! Відаць што і адны і другія лічаць нас за сваіх, за стаптаную і зрытую вайною зямлю, якая як раз добра пад культуру, толькі Божа барані, не пад беларускую!!!

### Аграні́чэньне руху чугунак.

У Польшчы агранічэна ход пасажырскіх поездаў і 13 з іх ужо скасована. Толькі поезды для падвоза прадуктаў спынены ня будуць. Дзеля гэтаго варшаўскія газэты пачалі прыходзіць у Вільню на трэцьці дзень

### З'езд беларусаў.

Варшаўская газэта „Kurjer Polski“ у № 133 з 29 траўня піша, што 7, 8 і 9 чэрвеня будзе склiканы у Вільні беларускі краёвы з'езд дзеля абгавараньня цэлага раду спраў, якія зьвязаны з сучасным палітычным мамэнтам.

### Незалежнасьць Эстоніі.

З Лібавы тэлеграфуюць, што народнае сабраньне Эстоніі апавесьціло вельмі урочыста незалежнасьць Эстонскай Рэспублікі.

## У ВІЛЬНІ.

### Адозвы і абвесткі

Усе адозвы, абвесткі і загады камэнданта горада палкоўніка Тупальскага друкуюцца ужо толькі па польску, а не, як раней, у чатырох краёвых мовах.

### Канцэлярышчына у Беларускай Радзе.

Нас просяць адзначыць, што у Беларускай Радзе ёсьць прыхільнікі шкоднай у наш час канцэлярышчыны. Так надоячы, калі прадстаўнікі беларусаў-ваякоў прасілі, каб Рада дала патрэбнае ім памяшчэньне, адзін з радных адказаў, што дзеля гэтага трэба падаць заяву, потым трэба чакаць, калі Рада зьбярэцца, разгледзіць заяву і пакладзець сваю рэзалюцыю.

Тымчасам для ваякоў, што не маюць дзе жыць і чым жыць, справа гэта вельмі пільная і неадкладная.

— **Ад'езд.** 28-га мая у 6 гадзін раніцы паехалі у Горадню старшыня Цэнтральнай Рады Горадзеншчыны гр. Аляксюк і сябра беларускай вайсковай рады б. Паўдзённа-Заходняга фронту палкоўнік І. І. Родштэйн-Гулевіч-Бароўскі.

**Тыфус і крываўка**—пачалі хадзіць пошасьцю па месту. Трэба сьцерагчыся.

**Амерыканская місыя**—(Закрэтная вул., б. ваенная вучылішча) дае помач толькі тым, хто запраўды упёк ад бальшавіцкага тэрору і гіне без дапамогі.

## Пісьмо у рэдакцыю*).

15-га мая гэтага году водле дазваленьня пана Камісара Віленскага павету за № 130 Павал Кіршэўскі з жонкаю Марыяю, сынам Барысам і дачкою Кацярынаю прыйшлі у свой двор Дукшты, Мейшагольскай гміны.

Прыйшоўшы туды, яны хацелі увайсьці у свой дом, але туды іх не пусьцілі, бо там ужо, водле распараджэньня нейкага касьцельнага комітэта, зацьверджанага бальшавіцкім мейшагольскім камісарам, пасяліліся ксяндзы Казімір Захаржэўскі з сваёю сямьёю і яшчэ нейкі другі ксёндз. Дом мае шэсьць пакояў і кухню, дык жонка прасіла уважыць нам, каб начаваць, хаця адзін пакойчык, але ксёндз ня згодзіўся і сказаў, што загадвае нашаю зямлёю, садам, гародам і інш. у фальварку комітэт, а ён тут ні да чаго.

А як у нас тры дамы, дык мы пайшлі у другі, дзе месьціцца наш жыцяль Міхалка Сенюць, але там падвоілася тое самае. Тады мы пайшлі у трэцці дом да фальварковага рандаўшчыка Ігнація Таразевіча, і той згодзіўся нас пусьціць на ноч. А не мінулася і паўгадзіны, як у ва двор з акалічных вёсак зьявіліся 15 чалавек селян і прыслалі у гэты дом Фелікса Лазоўскага у ролі дэпутата, каторы заявіў нам, каб выдаліі мы ся з свайго двара, і абвесьціў, што двор наш пераходзіць водле дазваленьня бальшавіцкага касьцельнаму камітэту.

Лічучы гэтакія падзеі якога-сь камітэта і айца ксендза незаконнымі і пабудаванымі на гвалце, што ёсьць наўпрэкі законам Боскім і людзкім і ніякім паміжнародным законам не дазволена, валадарка двара Марыя Кіршэўская зьвярнулася з жалабаю да пана Камісара Віленскага павету з прашэньнем.

Да слова сказаць мушу, што калі мы прыйшлі на могільнік каля цэркви, дык засьпелі там поўнае разбурэньне чугуннага памятніка нашае дачкі: крыж пакінут, а напіс зьнішчожаны, другі дзераўляны крыж выкінут і валяецца, нагул, як абачылі увесь могільнік, дык усе крыжы праваслаўныя над могілкамі нябошчыкаў або сьпілаваны або выкінуты і валяліся. Калі ж мы сказалі аб гэтым ксяндзу, дык ён адказаўся нам, што ня ведае аб гэтым.

Геткае зруганьне і бязчынства хрысьціянам не даруецца і даводзіць, што мы недалёчка адыйшлі ад барбараў, ня гледзячы на тое, што жывём у 20-м веку.

**Павал Кіршэўскі.**

*) Друкуем гэтае пісьмо, каб пан Кіршэўскі меў спосаб сказаць сваю крыўду грамадзе. Друкуем без аніякіх паясьняючых з нашага боку дадаткаў, бо уважаем, што пісьмо досьць красамоўнае, каб меркаваць аб сучасным плятню на ўзьмежку Беларусі з бальшавізма, шовінізма, перакручанага хрысьціянсгва і клясавай непрыязьні. Рэд.

*Хто прыезджае у Вільню і мае хоць каліўца часу пахвалiцца сваімі мястовымі, месьцячковымі ці вясковымі навінамі; хто хоча сам даведацца аб патрэбных яму і грамадзе беларускіх справах і навінах ці дастаць беларускую літэратуру,— ніхай ен будзе ласкаў не абмінуць сваю беларускую рэдакцыю.*



Рэдактар і выдавец У. Знамяроўскі. Друкарня „Прамень“, Ігнатаўскі, 5.